

Кітайскі танец выконваюць удзельніцы танцавальнай групы Івянецкага Дома культуры Н. Анчукова, Л. Хмыз, Н. Ламака і Т. Шпыт.

## Паэтычная ПАВЕРКА

Пятрусь МАКАЛЬ

### РАНІЦАЙ

Горад за ноч прадрог. Вуліца ціхая.
Трызненнем дзённых трывог гудзе яна.
Мой гадзіннік-будзільнік цікае,
Як міна
замаруджанага дзеяння.
Здзіўляюся, здзіўляюся...

Не зважаючы на светафор, што мігае
спрасонку стоп,
Па маставой пракацілася сонца, як сноп.
Эх, паставы,
Прамаргаў — не прадзіравіў правы.
Здзіўляюся, здзіўляюся...

Парачка выйшла — вуліца вышыла.
Сплеценых пальцаў размова шчырая.
Плацце — плывучую крону вішні —
Гімнасцёрка зялёная канваіруе.
Здзіўляюся, здзіўляюся...

Несучы сваю стому ў нялёгкім ранцы,
Кабета з паглядам, што бліскавіцаю бліскае,
Будзіць нарачонага тупае кожную раніцу
На плошчу круглую, да абеліска.
Здзіўляюся, здзіўляюся...

Бачу, як чалавек чыкільгае:
стук-стук!
Хто гэта —
генерал ці пастух?
Цяжка дыбаць:
на мыліцы
раскалываны з вайны
Паскрыпвае шар зямны.
Здзіўляюся, здзіўляюся...

А ўзбоч каля скверыка бой на дварэ,
З траншэяў новай будовы
Сонца на мушку снайпер бярэ —
Семігадовы, бядовы...
Калі я пакіну здзіўляцца?

Ніл ГІЛЕВІЧ

### ЭСТАФЕТА ПРЫНЯТА

Хлопцы з сёл беларускіх
дораць песні людзям на шчасце.
Юнакі, што радзіліся
ў той знепакоены год,
Калі хмары на Захадзе
пачыналі трывожна згушчацца,
І была папулярнаю песенька:
«Если завтра в поход...»
Ім спраўляліся хрэсьбіны небывалыя —
ўсім калгасам,
Ім давалі імёны нязвыклыя —
ў гонар слаўных падзей.
У застоллі дзядзькі ўспаміналі
нішчымніцу з квасам
І навыперадкі выхваляліся,
у каго багацей працадзень.

Маладыя паэты выходзяць
на сваё цаліннае ворыва,
Юнакі, што глядзелі
з кляновых калысак на свет,
Калі недзе далёка,
з кляймом адшчапенца і ворага,
Бочкі рабіў зямляк іх —
сапраўдны савецкі паэт.
Рукі прывыклі к фуганку,
адвыкшы трымаць аловак.
Сэрца,
што сонца расплёсквала,
сціскаў абручамі боль.

Каб не забыць дарэшты
водару роднага слова —
Бясконцымі вечарамі
ён сам размаўляў з сабой.

Маладыя паэты
пройдуць сцежкі свае
шчаслівейшымі,
Чым настаўнікі іх —
па любімай
пяшчотнай зямлі.
Нездарма ж ім упершыню
гаварыць захацелася вершамі,
Калі форум партыйны
Дваццаты
бурліў у Крамлі.
Будуць гімны Камуне
грымець,
у прасторах лунаючы.
Праўды ленінскай полымя
не задзьмулі вятрамі
гады.
Вунь як ярка яно
разгараецца ў сэрцах юначых!
Эстафета прынята.
Надзейна.
Навек.
Назаўжды.

1962.

Еўдакія ЛОСЬ

### ПАРУСНІК «ТАВАРЫШ»

Змогся, нарэшце,
Шторм пяцібальны.
Прыбыў з Плаешці
«Таварыш» світальны.

Каманда «Таварыша» —
Гэта таварышы!
Тут не пасварышся,
Столькі памарыўшы.

Столькі прайшоўшы
Вод заграпічных,
Столькі знайшоўшы
Зор заранічных!

Берагам крочаць
Парусазнаўцы...
Хто не захоча
З імі пазнацца!

Крочаць вясёлыя
Бураведы.
Следам — паўголыя
Непаседы.

Тыя, што любяць
Свае рагаткі,
Чые парусы галубяць
Маткі.

Чакай, Касабланка
І сонечны Рыо!
Клічнулі «склянкі»,
Салёная грыва...

Таварышы лашчацца
З дзецьмі, рудыя...
Гляньце, купальшчыцы
Маладыя!

Гляньце хутчэй,
Пашкадуеце скора:
Адрас вачэй —
Сіняе мора...

Валянцін ТАРАС

### ВЯРТАННЕ ДА ЧАЛАВЕКА

Я паўжыцця ахвяраваў на храм,
Пакорліва зацягвалася дзяжка,
Пайковы хлеб,
пайковая махра
Ды рухі рук,
што дубянелі цяжка...

Іскрысты зрок,
самкнуты ўпарта рот,—
Сабе
муруем з мармуру ступені!
Але хацеў ён,
каб упаў народ
Перад вышынным храмам
на калені,

І каб забыў,
што камяні цягаў
І дзёўб кайлом каменную
пароду...
Пакутлівая крыўда і туга
Каменнем леглі
на душу народу.

Над ім павіслі грузна ў вышыні
Партрэты бога на франтоне
храма.
Куродыміла свечка дзень пры дні
І плыў салодкі водар фіміяма.

Але ва ўсе нялёгкія гады
Не траціў муляр чалавечай веры,
Што ўзводзіць будзе проста
гарады—
Не храмы,
а звычайныя кватэры.

З плячэй нязломных скінуў
ён цяжар,
Як гаспадар,
агледзеўся наўкола,
Калі патух кадзільняў дымных
жар
І рухнулі вусатыя іконы.

З палёгкаю ўздыхнуўшы,
ён нясе
Шурпатаю рукой паходню века.
Вяртаемся
да Ільіча мы ўсе,
Ад бога —
назаўжды да Чалавека!

Пераклаў з рускай
П. МАКАЛЬ.

## Жывеў вёсцы інтэлігент

# ДРУГАЯ ПРАФЕСІЯ

Здаецца, зусім нядаўна гэта было...

На вялікім поплаве за вёскай Новыя Макраны некалькі хлапчукоў грэюць ля вогнішча адубелыя ногі. Восень — не салодкая пара для босых пастушкоў.

— Хопіць табе цягаць... — звяртаецца адзін з хлапчукоў да высокага для сваіх дванаццаці гадоў Васіля, які прынёс сухога галля. — Раскажы лепш, як ты яблыкі прасіў у Антося...

Хлопчыкі, мабыць, ведаюць гэтую гісторыю і весела рагочуць. Васіля доўга прасіць не трэба. Ён адыходзіць ад вогнішча, прымае паставу жабрака і танклява пачынае:

— Дзядзечка... У вас смачныя яблыкі. Дайце адно.

— Кхе-хе... А чый жа ты будзеш? — перакрыўляе ён Антося.

— Шкуцькоў... сярэдні.

— А колькі табе гадоў?

— Дванаццаць, дзядзечка.

— А чаму ты просіш?

— Бо сваіх няма, дзядзечка.

— Гм... А колькі ж зямлі ў вас?

— Тры дзесяціны ўсяго.

— Дык чаму ж больш не купляеце?

— Няма за што, дзядзечка.

— Ага... Гультаі — значыць... А якая сям'я ў вас?

— Дзесяць душ і я адзінаццаты.

— Чакай, чакай, а скуль ты ведаеш, што мае яблыкі смачныя?

— У вас, дзядзечка, дзірка вунь у плоце...

— Ах ты, байструк, ай жа валацуга! Дзе ж гэта кій мой, я т-табе!..

Хлапчукі заходзяцца ад рогату і яшчэ доўга, кожны на свой манер, перакрыўляюць вясковага багацея...

Гэта — мінулае...

А сучаснае?

На сцэне клуба калгаса «Чырвоны партызан» ідуць купалаўскія «Прымакі». Калгаснікі, старыя і дзеці жыва рэагуюць на кожную рэпліку і жэст Максіма — вясёлага, бесклапотнага хлопца.

У каторы раз глядзяць калгаснікі «Прымакоў», і кожны раз спектакль праходзіць з вялікім поспехам. Самымі гучнымі апладысментамі заўсёды ўзнагароджваюць Максіма. Не самога Максіма, канешне, а яго выканаўцу. Ролю ж гэту выконвае Васіль Пятровіч Шкуцько, той самы басаногі пастушок, які так дасціпна перакрыўляў перад сваімі аднагодкамі вясковага багацея Антося.

Васіль Пятровіч — настаўнік. Вось ужо тры гады працуе ён у Малакарацкай пачатковай школе, што ў кіламетрах дзесяці ад яго роднай вёскі Новыя Макраны.

Малакарацкая школа — невялікі драўляны будынак — стаіць якраз пасярод вёсачкі ў некалькі дзесяткаў дамоў. Васіль Пятровіч з сям'ёй і жыве тут, у двух невялічкіх пакойчыках. Іх трое: ён, жонка Людміла Аляксееўна ды васьмігадовы Васілёк. Школа густа абсаджана дрэвамі — клёнамі, таполямі і ліпамі. Перад вокнамі — клумбы. Улетку на іх цвітуць бухматыя вяргіні, чырвоныя макі, раскошныя гладыёлусы.

Васілю Пятровічу Шкуцько неўзабаве стукне сорак. З іх больш шаснаццаці гадоў ён аддаў выхаванню дзяцей—неспакойнай, руплівай і адказнай працы настаўніка. Нягледзячы на сваю штодзённую занятасць, Васіль Пятровіч знаходзіць час, каб заняцца і сваёй другой любімай справай — мастацкай самадзейнасцю.

Ад школы, дзе жыве Васіль Пятровіч, да клуба кіламетры два. І якое б надвор'е ні было: снег, дождж, вясенняя бездараж, — настаўнік не падвядзе, заўсёды з'явіцца на рэпетыцыю ці на спектакль.

Неяк восенню трэба было яму ісці ў клуб. Забавіўшыся за вучнёўскімі сшыткамі, Васіль Пятровіч пазніўся: да пачатку спектакля заставалася каля паўгадзіны. Выйшаў на вуліцу — дождж, цемра, — хоць вока выкалі. На дарозе за фермай трапіў у лужыну. Ступіў крок і адчуў, што пакінуў там галёш. Пакуль вярнуўся па яго, шукаў,— згубіў другі.

Запэцканы, змораны, мокры ўвайшоў у клуб і заплюшчыў вочы ад яркага святла. Зала была поўная людзей. «Ці ж мог я не прыйсці?» — падумаў настаўнік і хуценька падаўся на сцэну: там, пэўна, хваляваліся...

А праз колькі часу рассунулася заслона.

У Васіля Пятровіча — талент акцёра. І, мусіць, не так важна тое, што выступае ён на простай сельскай сцэне, што імя яго не стракаціць у прыгожых афішах. Ён просты, сціплы чалавек. І што б ён ні рабіў: адкрываў дзецям таямніцы роднага слова ці выступаў на калгаснай сцэне — усё робіць з любоўю, з душой. Васіль Пятровіч сыграў ужо ролі ў сарака п'есах і інтэрмедыях.

Спектаклі драматычнага калектыву, якім кіруе Васіль Пятровіч Шкуцько разам з бібліятэкаркай Рэгінай Іосіфаўнай Рымашэўскай з задавальненнем глядзелі калгаснікі не толькі калгаса «Чырвоны партызан», але і члены сельгасарцелей «Камунар», «Першае мая», «Праўда», «Зара камунізма», імя Леніна, рабочыя саўгаса «Туча» Клецкага раёна. Неаднаразова выступаў ён на сцэне раённага Дома культуры. Ездзілі калгасныя артысты і да суседзяў — у сельскія клубы Капыльскага раёна.

Аб тым, як іграюць самадзейныя артысты, сведчыць і тое, што два гады назад калектыў заняў першае месца на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці. Тады ж калгасных драмгурткоўцаў прэміравалі баянам.

Настаўнік сумеў згуртаваць вакол сябе дружны калектыў. Актыўны ўдзел у самадзейных спектаклях прымаюць загадчык свінафермы калгаса «Чырвоны партызан» Мікалай Шэйка, аграном Марыя Леаненя, механізатар Эдуард Сідаровіч. Цяпер драмкалектыў рыхтуе да пастаноўкі п'есу Кандрата Крапівы «Людзі і д'яблы». Роля ў гэтым спектаклі для Васіля Пятровіча будзе сорак першай. Ён амаль у два разы старэйшы за кожнага з ўдзельнікаў драматычнага гуртка. Але яго энергіі, нястомнасці можна пазайздросціць.

Мы расказалі толькі пра адзін бок жыцця сельскага інтэлігента — настаўніка Васіля Пятровіча Шкуцько. Мы не гаварылі тут аб яго працы ў школе, не гаварылі аб тым, што калгаснікі другой брыгады добра ведаюць яго як агітатара, не гаварылі аб тым, што ён старшыня мясцкома пры школе.

Іншы скептык усміхнецца: дзівак чалавек, што яму больш за ўсіх трэба? Хапае ж у яго сваёй работы і пры выпадку можна заўсёды спаслацца на занятасць.

На гэта ў Васіля Пятровіча свой погляд: жыць для сябе — значыць жыць для усіх.

Л. ФАДЗЕЕЎ.

## Нашы інтэрв'ю

# ПЯЦЬ АДКАЗАЎ НА АДНО ПЫТАННЕ

**— Што вы чакаеце ад новага тэатральнага сезона? — з такім пытаннем мы звярнуліся ў Гомелі да розных людзей, якія так ці інакш зацікаўлены лёсам свайго абласнога драматычнага тэатра: яго мастакоў і прыхільнікаў. Адны з іх на наша пытанне адказвалі грунтоўна і падрабязна, другія — паспешліва і лаканічна, але мы бачылі, што ніхто не заставаўся раўнадушным, усіх аднолькава хваляваў новы рэпертуар, новыя ролі, маршруты будучых гастрольных паездак. Вось некаторыя з гэтых адказаў.**

**Ю. АРЫНЯНСКІ, галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч мастацтва БССР**



— Я ў гэтым тэатры чалавек новы, працую першы сезон, але ўжо цвёрда ведаю — калектыў наш здольны на многае. Талент і вопыт заслужаных артыстаў рэспублікі М. Цурбакова, Т. Скаруты, артыстаў А. Каменскага, Р. Суворава, З. Свідуновіч і іншых, любоў да сцэны і працавітасць А. Дударава, М. Панфілавай, Р. Ляцэвіч, імкненне ўсяго калектыву да сапраўднай творчасці пераконваюць у гэтым.

Новы сезон мы адкрылі прэм'ерай «Ленінградскі праспект» І. Штока ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтва РСФСР Л. Палонскага і афармленні нашага галоўнага мастака А. Свішчава. Адбыліся і яшчэ дзве прэм'еры — «Пад адным небам» па п'есе А. Маўзона і «Дзень нараджэння Тэрэзы» Г. Мдзівані. Пачатак, як бачыце, нядрэнны, і ў далейшым мы не збіраемся зніжаць тон. Ідуць рэпетыцыі трагедыі В. Шэкспіра «Рамео і Джульета» і п'есы В. Розава «Перад вячэрай». Для маленькіх гледачоў рыхтуем «Дзімку-невідзімку» М. Львоўскага і В. Карастылёва. У партфелі тэатра многа п'ес савецкіх і зарубежных аўтараў — «Сябры і годы» Л. Зорына, «Дзевяты вал» Ю. Эдліса «Дзённік жанчыны» К. Фіна, «Смяротны прысуд» І. Собалева, «Паварот ключа» М. Кундэры, «Смерць губернатара» Л. Кручкоўскага. Мы абмяркоўваем, якія з іх уключыць у рэпертуар.

Вельмі многа мы чакаем ад сустрэч з гледачамі — пастараемся рэгулярна праводзіць з імі канферэнцыі, каб лепш ведаць запатрабаванні гамяльчан, іх думкі аб нашай рабоце. Як і ў мінулыя гады, нашы артысты і рэжысёры будуць актыўна памагаць у падрыхтоўцы рэжысёраў самадзейных тэатральных калектываў і, вядома, будуць вучыцца самі. У наступным годзе спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння выдатнага савецкага рэжысёра і артыста К. С. Станіслаўскага і, зразумела, мы пастараемся яшчэ лепш вывучыць яго багатую спадчыну.

Вельмі прыемна, калі да нас прыязджаюць працаўнікі палёў, але мы разумеем, што не заўсёды ў іх для такой дальняй паездкі ёсць час, і таму застанемся верныя традыцыі — будзем самі выязджаць з лепшымі спектаклямі ў калгасы і саўгасы вобласці.

**А. ФРАДЗІН, глядач, майстар партрэтнай майстэрні**



— Я не прапускаю ніводнай прэм'еры, заўсёды чакаю ад спектакля нечага новага, цікавага, карыснага. Але, на жаль, не заўсёды мае спадзяванні здзяйсняюцца. Сёлетнім сезонам я, праўда, пакуль што задаволены. «Ленінградскі праспект» — гэта цудоўна, праўдзіва і разумна. Вось я і хачу, каб увесь сезон быў такі, як запеў, — жыццёвы, яркі.

У нас гавораць: «Я бачыў гэты спектакль, дапусцім, у Мінску, не пайду ў Гомелі, нічога новага не ўбачу». Значыць, тэатру трэба набыць сваё аблічча, каб спектакль, які бачыў нават у дзесяці іншых тэатрах, гучаў тут па-новаму. Вось пагляджу, якім будзе «Дзень нараджэння Тэрэзы». Я яго бачыў у Маскве...

Сезон пачаўся і ўжо цяпер можна сказаць — пачаўся добра, з вялікім творчым гарэннем. І вельмі важна, каб гэты агонь творчасці не гас, каб з поўнай аддачай сіл артысты працавалі і на прэм'ерах, і на выездах, і на рэпетыцыях.

**Анатоль ДУДАРАЎ, артыст**



— Сезон пачаўся для мяне ўдала. Я зблізіўся са сваім новым героем — Барысам з «Ленінградскага праспекта». Я разумею, ведаю і люблю яго. Гэта зусім не значыць, што для мяне гэтая роля лёгкая. Наадварот — цяжкая і адказная. Барыс —аднагодак многіх гледачоў — маіх аднагодкаў, і яны заўважаць найменшы фальш у выкананні ролі.

А наперадзе — праца, праца. Я не хачу і не люблю гаварыць гучныя фразы... Але вы разумееце—я шчаслівы, шчаслівы, як чалавек, якому даверылі адказную і нялёгкую справу і які адчувае, што мае сілы справіцца з ёю. Я гавару пра ролю Рамео... Я марыў аб ёй шмат гадоў, яшчэ калі вучыўся ў Беларускім тэатральным інстытуце. Для мяне яна — экзамен маім здольнасцям, экзамен на права насіць званне артыста... Над гэтай роллю мы працуем удвух — Рустэм Савораў і я. Канкурэнцыі паміж намі, вядома, няма ніякай. Я вельмі рады працаваць разам са сваім таленавітым сябрам, у якога многа чаму можна павучыцца.

І яшчэ — вельмі хачу іграць ролі сваіх аднагодкаў — будаўнікоў ці касманаўтаў, вучоных ці студэнтаў. Толькі цяпер, працуючы над вобразам Рамео, пераконваюся, наколькі ён сучасны. Вось пачаў гаварыць пра адно і зноў успомніў пра Рамео. Не, не ўспомніў, ён у мяне ў галаве ўвесь час. І ў сэрцы...

А Джульету будзе іграць нядаўна прынятая ў наш тэатр М. Панфілава, якая з поспехам дэбютавала ў ролі Машы ў «Ленінградскім праспекце».

Ёсць усе падставы думаць, што ў новым сезоне будуць больш давяраць маладым артыстам. Ну, а мы пастараемся не схібіць.

**М. САВЕЛЬЕВА, распаўсюджвальніца білетаў**

— З кожным сезонам людзі ўсё больш ахвотна ідуць у тэатр. І ўсё больш становіцца ў горадзе аматараў тэатра, якія вельмі памагаюць у нашай рабоце. Вось Люда Бажко з фабрыкі «Камінтэрн». Сама не прапускае ніводнага спектакля і актыўна распаўсюджвае білеты на сваёй фабрыцы. Такія памочнікі ёсць у мяне і на іншых прадпрыемствах горада. І гэта вельмі добра, таму што адной вельмі цяжка было б працаваць. Нават немагчыма. А грамадскія распаўсюджвальнікі білетаў ведаюць запатрабаванні сваіх таварышаў па рабоце, кожны дзень сустра-



каюцца з імі і ўжо, вядома, знойдуць час, каб расказаць пра новы цікавы спектакль. І я думаю, не далёка той час, калі штатных распаўсюджвальнікаў білетаў не будзе. Я не гарую — пайду працаваць у іншае месца. І стану грамадскім распаўсюджвальнікам.

Вельмі хачу, каб у гэтым сезоне глядзельная зала заўсёды была поўная, каб пытанне «ці няма лішняга білета» чулася не ля кінатэатра, калі дэманструецца «Выдатная сямёрка», а ля пад'езда драмтэатра. Каб людзі ішлі ў тэатр, як на свята, каб кожны спектакль узбагачаў гледача. Каб нам, распаўсюджвальнікам, не трэба было ўгаворваць людзей: «Вельмі добры спектакль, раю паглядзець». А бывала і так — угаворыш, а ён потым падыдзе і скажа табе: «Што ж вы мне параілі?» Між іншым, у новым сезоне пакуль што не было такога. І не будзе, я думаю.

Нядрэнна было б стварыць у горадзе тэатральную касу, дзе прадаваліся б білеты і ў тэатр, і на вечары і спектаклі ў Палацах культуры. Прыйшоў чалавек, выбраў, купіў білет... Як вы думаеце?..

**І. ЧАЙКОЎ, вадзіцель аўтобуса драмтэатра**



— Працаваў я ў розных аўтагаспадарках — вялікіх і маленькіх. Вось ужо некалькі гадоў працую ў тэатры — вельмі падабаецца. Народ тут харошы і маршруты цікавыя. Ведаеш, што вязеш людзям радасць. Калі да якога-небудзь сельскага клуба пад'язджае наш аўтобус з артыстамі — яго ўжо чакаюць. Цяжка назваць месца нашай вобласці, куды мы не выязджалі са спектаклямі. Артысты — народ неспакойны і мне з імі цікава.

Даруйце, я адышоў ад вашага пытання — што я чакаю ад новага сезона? Далёкіх дарог і добрага грузу ў аўтобусе. Разумнага і карыснага грузу. Я ж ведаю — нашы артысты могуць іграць добра. Ну, а дарогі будуць — гэта абавязкова.

А пра запчасткі і гуму таксама можна сказаць? Тады запішыце — бывае і цяжкавата... Гэта — каб Галоўснаб Міністэрства культуры не забываўся.

Д. РАДЗІНСКІ,
Ф. КУРАС,
В. ВАСІЛЬЦОЎ.

## КОРАТКА

△ Масавая бібліятэка імя М. Астроўскага г. Мінска правяла канферэнцыю па кнізе пра мінскае падполле «Руіны страляюць ва ўпор». На вечары выступілі аўтар кнігі І. Новікаў, былыя падпольшчыкі І. Будаеў, П. Прусліна і інш. Сустрэча адбылася ў інтэрнаце завода запасных частак.

△ Днямі ў Кіеве, у Інстытуце літаратуры імя Тараса Шаўчэнкі Акадэміі навук УССР пісьменнік Алесь Адамовіч абараніў доктарскую дысертацыю, тэма якой — беларускі раман.

△ Нядаўна ў выдавецтве Акадэміі навук БССР упершыню выйшаў з друку помнік беларускай культуры «Александрыя». Тут змешчана пяць розных рукапісных спіскаў перакладной аповесці, якая была даволі шырока распаўсюджана ў Беларусі ў XV—XVII ст. Рэдактар кнігі — член-карэспандэнт АН СССР прафесар В. Баркоўскі, складальнік — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа Ул. Анічэнка.

## КОЛАСАЎСКІ ВЕЧАР У СМАЛЕНСКУ

Днямі ў Смаленску адбыўся вялікі літаратурны вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа.

У актавай зале медыцынскага інстытута сабраліся пісьменнікі, журналісты, студэнты, прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў горада. Даклад аб жыцці і творчасці Якуба Коласа зрабіў Максім Лужанін. З успамінамі аб сустрэчах з беларускім песняром выступіў вядомы рускі паэт Мікалай Рыленкаў. Паэт Іосіф Васілеўскі чытаў свае пераклады з твораў Якуба Коласа. Выступілі таксама паэты Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч.

Творы вялікага паэта Беларусі прачыталі артыстка Смаленскага тэатра Т. Кальчэўская і заслужаны дзеяч культуры БССР А. Слесарэнка.

А. ГАМАН.

## НОВЫЯ ІМЁНЫ

У Беларускім тэатры оперы і балета адбыўся вялікі канцэрт з удзелам новых артыстаў.

У першым аддзяленні ўвагу слухачоў прыцягнуў заслужаны артыст РСФСР І. Сарокін, які ў суправаджэнні аркестра (дырыжор Л. Любімаў) выканаў арыю Гразнога («Царская нявеста»), куплеты Эскамільо («Кармэн»), арыю Рабэрта («Іяланта»), каваціну Алека з аднайменнай оперы, маналог Яга («Атэла»), а таксама некаторыя рамансы. Такая сур'ёзная і складаная праграма дае падставу меркаваць пра І. Сарокіна як пра спевака з высокай вакальнай і музычнай культурай, які можа дасканала раскрыць і данесці да слухача сэнс кожнага выконваемага твора. Шкада толькі, што іншы раз артыст ужывае фарсіроўку гуку, асабліва ў верхнім рэгістры.

Саліст Львоўскага тэатра оперы і балета З. Бабій праспяваў шэраг арый з опер рускіх і заходнееўрапейскіх кампазітараў, а таксама неапалітанскія песні. Аркестрам дырыжыравалі Т. Каламійцава і І. Абраміс. Спявак валодае надзвычай прыгожым і моцным, свабодным ва ўсіх рэгістрах драматычным тэнарам. Але ў канцэрце не адчувалася глыбокага пранікнення ў сэнс музычных твораў, артыст выконваў іх без тонкай нюансіроўкі.

Прыемна было пазнаёміцца і з новым канцэртмайстрам тэатра В. Багатырскай, якая выдатна выканала партыю фартэпіяна.

Цэлае аддзяленне канцэрта далі артысты балета, якія надзвычай суха, а часам і неахайна, выконвалі свае нумары. Выключэнне складалі «Фламенка» з балета «Дон-Кіхот» (тут асабліва ярка паказала сябе новая характарная і тэмпераментная салістка Т. Барушная і «Усходні танец» з балета «Блакітны Дунай» у выкананні В. Крыкавай.

Г. ГОРСКІ.





Шахцёрам Салігорска, людзям, якія стварылі новую старонку ў працоўнай біяграфіі нашай рэспублікі, прысвячаецца асобны эпізод каляровага поўнаметражнага дакументальнага фільма «Беларусь на ўздыме». Ён здымаецца Мінскай студыяй навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў.

На гэтым фота вы бачыце рабочы момант кіназдымкі ў Салігорску. За камерай — аператар В. АРЛОЎ.

Фота Н. ЮЖЫКА (БЕЛТА).

# З карэктурных лістоў




«З карэктурных лістоў...» Рубрыка гэтая, безумоўна, вядома чытачам нашай газеты. І ўсё ж сёння, думаецца, некаторыя з іх будуць здзіўлены: у гэтым нумары мы ўпершыню знаёмім з дзіцячымі часопісамі—«Бярозка» і «Вясёлка».

«Бярозка»—часопіс для школьнікаў сярэдніх класаў, і «Вясёлка», адрасаваная самым малым чытачам, карыстаюцца вялікай папулярнасцю і любоўю сярод нашых дзяцей. Аб гэтым сведчаць хоць бы іх шматтысячныя тыражы.

«Бярозка» і «Вясёлка» шырока асвятляюць школьнае і піянерскае жыццё маленькіх грамадзян нашай рэспублікі. На іх старонках друкуюцца нататкі, рэпартажы, замалёўкі аб справах школьнікаў. З расказамі аб жыцці піянерскіх звенняў, атрадаў, дружын, акцябрацкіх зорачак выступаюць самі школьнікі—чытачы часопісаў.

Акрамя гэтага, «Бярозка» і «Вясёлка» прадастаўляюць свае старонкі для мастацкіх твораў. У кожным іх нумары заўсёды ёсць творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, а таксама дзіцячая мастацкая творчасць. Так, у «Бярозцы» з нумара ў нумар вядзецца раздзел «Гэта ваша творчасць», у якім друкуюцца вершы, апавяданні і малюнкі дзяцей.

Вялікая ўвага ўдзяляецца ў часопісах малюнку, мастацкаму афармленню. «Бярозка» і «Вясёлка» заўсёды вабяць вока прыгожа афармленымі вокладкамі, багатым ілюстрацыйным матэрыялам. У афармленні і ілюстрацыі дзіцячых часопісаў прымаюць удзел лепшыя мастакі рэспублікі.

На гэтай старонцы мы змяшчаем некаторыя з матэрыялаў, якія будуць надрукаваны ў снежаньскіх нумарах часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка».

Міхась ЗАРЭМБА («Бярозка»)

АПАВЯДАННЕ

## Круты спуск

Цягне да сябе загорскіх рабят Замкавая гара. У бок вёскі спускаецца яна адханавата, і тут катаюцца ўсе — ад малога да вялікага. Супрацьлеглы ж бок, нібы збаяўшыся Гайны, што цячэ блізка, строма абрываецца ўніз. Тоніка Навіцкага не палохалі ні гэты круты спуск, ні шалёная хуткасць, з якой нesліся лыжы.

Усе зайздросцілі Тоніку, захапляліся яго смеласцю.

Вось і цяпер Тонік накіроўваецца да крутога схілу. Пеця Кузьмянок — услед за ім. Тут жа і ўсе рабяты бягуць вясёлай гурмой.

Марозна. Сонца зыркае, халоднае.

Пеця не падае выгляду, але на душы ў яго нявесела.

Калі ўчора на перапынку сямікласнікі абмяркоўвалі аповесць пра Марата Казея, Пеця Кузьмянок заўважыў:

— Вось гэта быў адважны піянер, нават фрыцаў не баяўся.

Тонік любіў звярнуць на сябе ўвагу. Ён зняважліва паглядзеў на невысокую худзенькую постаць Пеці і сказаў:

— Вядома, табе, баязліўцу, да Марата далёка. Ты ж нават «сонца» баішся зрабіць на турніку, а ноччу і кроку не ступіш з хаты адзін.

Можа іншы раз Пеця і змаўчаў бы. Але цяпер, калі размова ішла пра Марата Казея, пачуць такія словы ў свой адрас перад усім класам было найвялікшай абразай.

«Ну, няхай я не зраблю «сонца» на турніку. Тут трэба мець не толькі храбрасць, але і сілу, — пакутліва думаў Пеця.— А што баюся хадзіць адзін ноччу — хлусня. Нядаўна, калі маме зрабілася дрэнна, аж за два кіламетры бегаў апоўначы ў суседнюю вёску па ўрача...».

— А ты хвалько і манюка! Думаеш, калі з'язджаеш на лыжах з Замкавай гары, то і невядома які храбрэц? Вось захачу і я з'еду адтуль.

— Ты? Ты — з'едзеш?! — Тонік зарагатаў на ўвесь голас.

— А вось і з'еду! — загарэўся Пеця.

— Ты толькі на словах смелы, — працягваў кпіць Тонік з Пеці...

— Заўтра пойдзем і паглядзім: з'еду я з Замкавай гары ці не...

Усе здзіўлена пераглянуліся, а Тонік, які не чакаў такой упэўненасці з боку Пеці, змоўк.

...З набліжэннем да крутога схілу Пеця ўсё больш хваляваўся. Калі ўзышлі на вяршыню, Пеця глянуў з гары. У яго аж перахапіла дыханне. Ён зразумеў, што ніякая сіла не прымусіць яго з'ехаць адсюль.

Тонік паказаў рукой уніз:

— Давай! Можа мне давядзецца прасіць прабачэння, што назваў цябе баязліўцам...

Пеця адчуў на сабе позіркі рабят.

Чуліся галасы:

— Ты, Пеця, не бойся, дакажы Тоніку, што не толькі ён можа тут катацца.

І ўсё ж ніхто не мог паверыць, што Пеця адважыцца з'ехаць.

Каб як-небудзь адцягнуць хвіліну сваёй ганьбы, Пеця стаў уважліва аглядаць мацаванні лыжаў. Ён пакутліва перажываў сваю нерашучасць.

— З'едзь ты першым, — парушыў маўчанне Пеця.

Тонік з пераможным выглядам засмяяўся:

— Ну, што я казаў, а яшчэ перад усім класам хваліўся.

Тонік наблізіўся да краю абрыву, нацягнуў на самыя вушы шапку і, падхапіўшы пад пахі палкі, слізгануў уніз. Толькі лёгкі пушысты снег узняўся серабрыстай хмарай.

Спуск кончыўся, і лыжы, не збаўляючы хуткасці, панеслі Тоніка па снегавой раўніне да ракі, якая настылай лёдавай бранёй зіхацела на сонцы.

Тут Тонік звычайна зварачваў убок, а цяпер ён чамусьці гэтага не зрабіў і на лыжах ускочыў проста на лёд. Гайна ў гэтым месцы была нешырокая. Каб не стукнуцца ў супрацьлеглы высокі бераг, Тонік крута павярнуў назад. Але не ўтрымаўся на слізкім лёдзе і паваліўся набок. Раптам адбылося тое, чаго ніхто не чакаў. Тонік уз'ехаў якраз на быстрак. Лёд тут быў тонкі і не вытрымаў.

Рабяты на нейкі момант разгубіліся. Кожны нешта крычаў, кожны нешта раіў, але ніхто не скрануўся з месца. Потым нехта памчаўся ў вёску, нехта пачаў адвязваць лыжы, каб пеша кінуцца на дапамогу Тоніку.

І тут нібы нешта штурханула Пецю. Ён увесь напружыўся, прыгнуўся да зямлі і рынуўся ўніз. Вецер адразу ж засвістаў у вушах, вочы затуманілі слёзы. «Толькі б не паваліцца, толькі б паспець...» Пеця адчуў, як губляе ўладу над сабой. Незвычайная лёгкасць напоўніла ўсю яго істоту. Узнікла ўражанне, што ён вось-вось узляціць у паветра. З такой хуткасцю яму яшчэ ні разу не даводзілася ездзіць на лыжах.

Калі спуск скончыўся і лыжы вынеслі Пецю на раўніну, ён зрабіў трохі няўдалы рух. Перакуліўшыся разы два праз галаву, хлопчык глыбока зарыўся ў сумёт. Калючы снег, нібы высыпаны з жароўні жар, балюча апёк твар, пасыпаўся за каўнер. Пеця імгненна ўскочыў на ногі. Да ракі аставаліся лічаныя метры. Адчапіўшы лыжы, Пеця кінуўся Тоніку на дапамогу.

Тонік з апошніх сіл трымаўся на вадзе. Усе спробы вылезці на лёд канчаліся няўдачай. Азяблыя рукі слізгалі па краях палонкі.

— Трымайся! — Пеця папоўз па лёдзе, штурхаючы перад сабой лыжу.

Калі Тонік ухапіўся за яе, Пеця стаў адпаўзаць назад. Ледзь Тонік узабраўся на край палонкі, як лёд трэснуў, і хлопчык зноў апынуўся ў вадзе, але лыжу не выпусціў.

А Пеця ўсё адпаўзаў і адпаўзаў да берагу. Цяпер лёд з краю палонкі быў таўсцейшы, і Тонік, нарэшце, выбраўся з ледзяной вады. Тут жа Пеця хуценька адчапіў Тонікавы лыжы.

Усё гэта адбылося так хутка, што ніхто з рабят не здолеў дабегчы да месца здарэння, прабіваючыся па пояс па снегавой цаліне.

Вопратка Тоніка ўміг пакрылася ледзяной карой.

— Бяжы дамоў, а то зусім замерзнеш. Лыжы я прынясу,— сказаў Пеця.

Тонік удзячна зірнуў на таварыша і прашаптаў пасінелымі губамі:

— Прабач, што не паверыў табе, — і пабег па сцежцы ля рэчкі дадому.

Пеця толькі цяпер адчуў, што ўвесь дрыжыць, мабыць, не столькі ад холаду, колькі ад перажытага...

Уладзімір ПАЎЛАЎ

(«Бярозка»)

## ПІСЬМО БРАТУ

Дзень добры, брат!
Што новага ў Сусвеце!
Я там яшчэ ні разу не лятаў.
Твой здымак сёння змешчаны
ў газеце,
Які ты нам надоечы прыслаў.

Каторы дзень ідуць да нас у хату,
Віншуюць маму з поспехам тваім.
А ў школе гаварыў пры ўсіх
важаты,
Што заўтра мы да Марса паляцім.

У нас зіма, гуляе сівер злосны.
І не такі, як летам, зорапад.
Але на Марс ляцець аднагалосна
Сабраўся піянерскі наш атрад.

Ты напішы, што ўзяць з сабою
з дому,
Куды з'явіцца трэба і калі.
А як даехаць нам да касмадрома,
Мы распытаем самі у Крамлі.

Калі ты будзеш з космасу
вяртацца,
Пра гэта нам па радыё скажы —
Цябе стрэчаць, з табою павітацца
Мы першымі са школы
прыбяжым.

Планеты невядомыя і зоры
Даўно гукаюць, брат мой, і мяне.
І нездарма настаўніца гаворыць,
Што я ва ўсім падобны на цябе.

Аляксей ПЫСІН

(«Вясёлка»)

## ЧАТЫРЫ ПАРТРЭТЫ

Чатыры партрэты ў мяне,
У рамках яны на сцяне.
Люблю я нябесных братоў:
Гагарын і Герман Цітоў,
Паповіч, а вось —
Нікалаеў, —
З іх кожны Радзіму ўславіў.
Партрэты пад шклом
на сцяне,
А толькі скажу па сакрэту:
Ёсць рамкі ў запасе ў мяне
Для новых партрэтаў.

Клаўдзія КАПЛЯН («Вясёлка»)



## ЛЫЖЫ

У маленькім завулку вялікага горада стаяў чырвоны цагляны домік. У ім жылі па суседству дзяўчынка Ніна і хлопчык Сеня.

Аднаго разу Ніна і Сеня сядзелі каля акна і пазіралі на двор. За акном вялікімі пушынкамі падаў снег. Белы дыван заслаў увесь завулак. Плот і веснічкі надзелі мяккія пушыстыя шапкі. А снежныя матылькі ўсё кружыліся і кружыліся...

— Эх, як добра было б пакатацца!—уздыхнула Ніна. — Але як гэта зрабіць?

У яе ёсць толькі лыжы, ды і на тых парваліся раменьчыкі.

— Знаеш, Ніна, што, я адрамантую твае лыжы ды ў мяне ёсць палкі, будзем разам катацца. Добра? — прапанаваў Сеня.

— Добра, — адказала дзяўчынка.

Так у Ніны і Сені з'явіліся свае лыжы. І паколькі яны хадзілі ў школу ў розныя змены, то Сеня катаўся зранку, а дзяўчынка — пасля абеду.

Усё ішло добра да зімовых канікул. А тут аднаго дня ім захацелася абоім пакатацца зранку. А лыжы адны. Заспрачаліся, і ніхто з іх не захацеў уступіць другому.

Дзяўчынка даказвала, што лыжы яе, а Сеня даводзіў сваё:

— А хто іх адрамантаваў? А палкі чые?

Раззлаваўшыся, яны пачалі вырываць адно ў аднаго лыжы. Пасля хлопчык адарваў раменьчыкі, шпурнуў лыжы і забраў свае палкі.

— Катайся цяпер, — гукнуў ён Ніне і пайшоў у дом.

Стаяць у адным кутку лыжы з адарванымі раменьчыкамі, а ў другім — палкі.

Прыйшлі з работы іхнія мамы, паглядзелі на сваіх дзяцей і зразумелі, за што не паладзілі дзеці. Адна ўзяла лыжы, другая палкі і закінулі на гарышча.

Сядзяць хлопчык і дзяўчынка дома і глядзяць праз акно на двор. А снег вялікімі пушынкамі ўсё ляціць, усё падае.

Сеня моўчкі ўстаў і палез на гарышча. Дастаў лыжы і палкі, схаваўся ў дрывотні і пачаў зноў рамантаваць лыжы. Зрабіў як след, памазаў іх, каб добра слізгацелі, і паставіў у куток дрывотні.

«Пайду скажу Ніне, што зноў лыжы спраўныя. Няхай ідзе першая пакатаецца», — падумаў хлопчык.

Але дзяўчынкі дома не было. Тады Сеня пайшоў да яе сяброўкі і, не застаўшы там Ніны, вярнуўся дахаты, апрануўся і вырашыў пакатацца сам.

Прыйшоў Сеня на дрывотню, а лыж няма. Аблазіў усе куткі, — як скрозь зямлю праваліліся. Не разумеючы, куды дзеліся лыжы, ён, засмучоны, паплёўся на горку. І раптам бачыць, што на тую ж горку ўзбіраецца Ніна на сваіх лыжах.

— Ну, я ж табе пакажу! — гукнуў раззлаваны Сеня. Але дзяўчынка была высока на горцы і не пачула пагрозы. Яна лёгка адштурхнулася і віхрам зляцела ўніз.

У хлопчыка аж дух заняло, калі Ніна слізганула па трампліну, праляцела над ім у паветры і апусцілася на дарожку. Тут яна крута развярнулася і памчалася па снежным полі.

— Вось гэта здорава! Вось гэта прыжок! — зайздросцілі лыжнікі.

«От каб мне навучыцца такія прыжкі рабіць», — падумаў Сеня. Ён ужо забыўся на сваю пагрозу, і калі дзяўчынка параўнялася з ім і хацела аддаць лыжы, Сеня сказаў:

— Не адшпільвай раменьчыкаў, не трэба. Катайся, пакуль здаволішся, а я пасля...

Ніна ўсміхнулася і пачала ўзбірацца на гару.

Артур ВОЛЬСКІ

(«Вясёлка»)

## Коні-поні

Ах, якія коні
Маленькія поні!
Падвядзіце
Хутчэй
Мне каня
Гарачэй!
Цок,
Цок, —
Капыточкі,
Нібы малаточкі
Б'юць,
Усе чатыры ў лад.

Еду,
Быццам на парад.
Гэй, сланы
І насарогі!
Саступіце вы
З дарогі.
І фазаны,
І паўліны
«Смірна» ўсе
Стаяць павінны!
Нам насустрач —
Цар звяроў.
Я кажу яму:
— Здароў!
Загадай,
Каб заасад
Дружна выйшаў
На парад...

Як жа хутка
Скончан круг!
Павады
Забралі з рук.
— Злазь, — гавораць, —
Дарагі,
Бо чакае ўжо
Другі...
Ах, якія коні
Маленькія поні!

## ГЭТА ВАША ТВОРЧАСЦЬ

### ВОСЕНЬ

Адышло вясёлае лета. Апусцелі палі. Ціха стала ў лесе. У вырай адляцелі стрыжы і ластаўкі. Толькі вераб'ям усё няма спакою, скачуць па платах, чакаюць, калі вылецяць у вырай шпакі, каб на зіму заняць іхнія кватэры. Сады і ўсё наваколле пахнуць даспелымі, сачаўнымі антонамі. Вечарамі, калі на лугі кладзецца туман, пахне падвялая атава.

Восень гаспадарыць у прыродзе. Вішні, рабіны стаяць ужо без лісцяў, а на ліпах, клянах, бярозах яно пажаўцела і пачынае ападаць. Вецер падхоплівае лісты, і па зямлі мчыцца залатая мяцеліца.

Адны толькі елкі ды хвоі верныя сваім звычаям — стаяць зялёнымі. Ім і справы мала, што сяброў іхніх і суседзяў распранае восень. І познія кветкі адцвітаюць.

Восень — шчодрая гаспадыня. Убраны агароды. З калгасных палёў плывуць і плывуць фурманкі, з коптурам нагружаныя бульбай. На палях пярэста ад хустак калгасніц.

І школа можа ганарыцца сваім ураджаем. Добра ўрадзілі жыта, авёс, бульба, морква, буракі.

Убралі мы свой прышкольны ўчастак. Новы клопат у нас цяпер. Кожнай раніцай нас кліча галасісты жаўрук, які ніколі не адлятае ў вырай і адпачывае толькі ўлетку — наш школьны званок. Ён і прыспешвае нас: «Хутчэй, хутчэй, не спазніцеся!» Ён і пытаецца ў нас: «А з чым вы дадому ідзяце? Што ў дзённіках несяце?»

Не хвалюйся, наш жаўрук, багатая восень на ўраджай, багатая яна і на пяцёркі.

Станіслаў КАЗЕЛ.

Вёска Селяўцы
Маладзечанскага раёна.

### ХВАЛЬКО

Янка хваліцца заўзята:
— Я ў Мінск паеду
з братам,
Пракачуся на трамваі...
Ўсе прызы пазабіраю
На спаборніцтвах, турнірах...
Я не хлус, кажу вам шчыра!..
А настаўнік выклікае,
Храбрасць Янкава знікае.
Неяк выклікаў географ —
І страслося з хлопцам гора.
Адшукаў ледзь Клецк
і Пінск,
Ды не мог знайсці ён Мінск.

Алесь КАМАРОЎСКІ.

в. Мікалаеўшчына,
Стаўбцоўскага раёна.

Алесь САВІЦКІ («Бярозка»)

АПАВЯДАННЕ

## Яблыкі

Яблыкаў было дванаццаць.

Кастусь добра ведаў гэта, і ўсё ж ранкам, начыста абабраўшы дрэва, абышоў яблыньку вакол, агледзеў усе галінкі і потым яшчэ раз пералічыў яблыкі ў плеценым кошыку.

Прыйшоўшы ў хату, Кастусь паставіў кошык на стол урачыста і асцярожна.

— Хадзі сюды, мама! — паклікаў ён, надаўшы голасу мужчынскую сталасць.

Гэтыя словы былі падрыхтаваны Кастусём даўно, яшчэ ў той час, калі быў жывы бацька і яны разам сеялі на вузкіх лехах парныя бліскучыя яблыневыя зярняткі. Зярняткі тыя добра ўзышлі і шуганулі ў расткі, а на другую восень, калі з тонкіх стромкіх дрэўцаў зляцела лісце, захварэў і раптоўна памёр бацька. Вясной маці ўзялася выдзіраць дзічкі, каб пасадзіць на тых лехах бульбу. Кастусь убачыў праз акно, як маці круціла ў дугу маленькія дрэўцы, і вылецеў з хаты.

— Гэта ж яблынькі, мама!

— Калі мы тых яблыкаў дачакаемся, — сказала маці, толькі на момант спыніўшыся.— А бульбы пасадзім — увосень з'еш.

З рудых карэньчыкаў асыпалася сырая зямля. Кастусь глядзеў на чорныя камялі і ледзь не плакаў.

— Таткавы яблынькі, —толькі і змог сказаць ён. — Таткавы...

Маці раптам спыніла сваю працу і нейкі час углядалася ў вочы сына.

— А можа і праўда, —урэшце, сказала яна. — Няхай растуць. Не прыбавіцца ў нас бульбы ад гэтага кавалка...

Яблынькі раслі. І чым вышэй узнімаліся дрэўцы, тым нецярплівей чакаў Кастусь таго дня, калі ён дасць маці яблыкі, якія сам вырасціў. Яму здавалася, што той дзень будзе нейкі асаблівы, святочны.

І вось гэты дзень настаў — звычайны восеньскі дзень. І толькі сам Кастусь быў зусім не падобны на таго маленькага хлопчыка. Сабраўшы з яблыні першы ўраджай, ён адчуў сябе амаль дарослым.

— Хадзі сюды, мама! — настойліва паклікаў Кастусь.

Маці падышла і перш, чым узяць яблыкі, старанна выцерла рукі хвартушком і ўгледзелася ў вастраносы сынаў твар. Белявыя валасы падалі Кастусю на лоб. Маці адвяла іх рукой і потым, каб не глядзець у шэрыя, поўныя радасці, вочы сына, узялася перакладаць яблыкі ў кошыку. Яна кратала іх асцярожна, нібыта яны былі зроблены з танюткага шкла.

— А пахнуць жа як! — сказала маці. — Дзякуй, сынок. Адзін я пакаштую...

— Не! Ты ўсе забяры. Гэта табе ўсе дванаццаць!

— Дванаццаць, — задуменна сказала маці і зноў пагладзіла Кастуся па галаве. — Гэта ж табе сёлета споўніцца дванаццаць. І яблыкаў якраз столькі ж. Добрая прыкмета... Вось адзін я сабе вазьму пакаштаваць...

— Не, гэта табе ўсе!

Маці з ціхай усмешкай зірнула на Кастуся:

— Тады мы, ведаеш, што зробім? Табе яблычак і мне адзін, каб пакаштаваць.

— А куды ж астатнія?

— Бацяну занясеш. Праўда, праўда! Памагаюць яны нам шмат. Вось і мы ім аддзякуем.

— Як хочаш рабі... Толькі я вырасціў іх табе...

Кастусь глядзеў на матчыны рукі, у якіх апынуліся два самыя горшыя яблыкі.

— За дабро трэба плаціць дабром, — сказала яна з папрокам. — Прышчэпы на дзічках хто нам рабіў? Няўжо не памятаеш?.. І кош гэты іхні. Вось разам з яблыкамі і аддасі. Бяжы! І дужа не баўся...

Дарэмна папракае яго маці. Кастусь не забыўся. Ён добра памятае той цёплы пагодлівы дзень, калі да іх прыйшоў Ціхон Бацян — не зусім блізкі сваяк. Бацяна ў вёсцы, нават і жонка, клікалі па прозвішчы. Ён працаваў у калгасе вартаўніком, а на сваім прысядзібным участку займаўся пчалярствам і садоўніцтвам. Маленькі, са схіленай набок галавой, ён аглядаў Кастусёў гадавальнічак і таропка рабіў прышчэпы, увесь час намагаючыся стаяць спіной да Кастуся. Два большыя дрэўцы ён выкапаў і забраў з сабой, а тры маленькія, што раслі ў самым кутку,—кволыя і несамавітыя, — не чапаў, сказаў, каб іх выкінулі. Кастусь не выкінуў іх, даглядаў з яшчэ большай увагай. Чаму ён павінен несці цяпер яблыкі з гэтых дрэўцаў Бацяну?

Хата Бацяна стаіць наводшыбе пасёлка другой паляводчай брыгады, за будынкамі свінагадоўчых ферм. Каб трапіць да іх, трэба прайсці ўсю вёску, мінуць выган і перабрацца па вузенькаму масточку на другі бок ручая. Не так ужо і далёка, але дарога ў гэты дзень здалася Кастусю вельмі доўгай і цяжкай.

Нашто Кастусёвы яблыкі Бацяну? У яго ж, мабыць, ад усіх у вёсцы самы большы сад. І паспрабуй ты вазьмі хоць адзін яблычак! Летась Кастусь са сваім сябрам наважыліся пакаштаваць з таго саду ранетаў, дык вялізны, як воўк, сабака адразу ж наваліўся на іх. Каб Юрка не выцяў яго кіем, пэўна, нарабіў бы той сабака бяды...

Задумаўшыся, Кастусь не заўважыў, як узышоў на масток. За алешынамі заліваўся спартыўны свісток.

Хлопцы ганялі футбол. Кастусь бачыў цяпер іх постаці і адразу адчуў, як пацяжэў кошык. Ён пераклаў яго з левай рукі ў правую і раптам рашыў, што ісці праз масток няма ніякай патрэбы. Можа, падацца выганам і паглядзець, як там ідзе гульня? Кастусь не будзе затрымлівацца. Ён толькі зірне, пару разоў стукне па мячу і пабяжыць.

— Ко-осцік! — радасна зароў Юрка, убачыўшы Кастуся. — Станавіся на падмену! Я ў ручай бягу, — накульгваючы, ён шкандыбаў да алешын.— Кампрэс пакладу. Бачыш, нага?

З Юркам яны сядзелі за адной партай. Мінулагодняя бойка з сабакам у Бацяновым садзе канчаткова замацавала іх сяброўства.

— Чаго ты стаіш? — здзівіўся Юрка. Ён прыўзняў покрыўку, зазірнуў у кошык і аблізнуўся: — А-а-а! Яблычкі! Добрыя. Адкуль? — і, не дачакаўшыся адказу, зноў закрычаў:— Чаго ты стаіш? Яны нам ужо два насадзілі!

Кастусь дужа любіў футбол. Але маці не вельмі вітала гэтую яго схільнасць. Кожны раз, калі Кастусь прыходзіў дамоў з выгану, яна адразу ж здагадвалася, чым ён там займаўся. «Апошнія чаравікі аб той футбол лупіш? Лупі, лупі...»

Праўда, у яго ёсць яшчэ адны чаравікі, і туфлікі ёсць, брызентавыя, зусім новыя. Але паспрабуй пераканаць маці...

Кастусь хуценька разуўся, паставіў чаравікі ля кошыка і пабег у канец выгану. Цвёрдая, абскубаная качкамі трава прыемна казытала ногі. Слаўна бегчы басанож, адно толькі шкада — не ўдарыш як след.

Абшарпаны футбольны мячык выкаціўся Кастусю насустрач зусім нечакана, і хлопчык на нейкі момант разгубіўся. Але гэта быў толькі момант. Ён лёгка падштурхнуў мячык нагой і пагнаў яго ў вароты. Неяк адразу адсталі абаронцы, і імгненна выраслі дзве грудкі камення, паміж якіх, прыгнуўшыся, стаяў варатар. Выган скалануўся ад пераможнага і радаснага: «Го-о-ол!»

Калі гульня скончылася, Кастусь схапіў чаравікі і пабег да ручая памыць ногі. Радасць перамогі бурліла ў яго сэрцы.

Халодная вада трохі прыглушыла ягоны настрой, і Кастусь успомніў, што яго чакае маці. На выгане панавала цішыня. Нядаўнія праціўнікі мірна сядзелі вакол Кастусёвага кошыка і смачна елі яблыкі. Кошык быў пусты.

Ён запытаўся разгублена і коратка:

— А дзе яблыкі?..

— Ай-яй-яй! — прыкідваючыся, пашкадаваў Юрка. — Мы ж гаспадару нічога не пакінулі...

Юрка запусціў руку ў пусты кошык, выцягнуў стракатую хусцінку, якой Кастусёва маці накрыла яблыкі, а другой працягнуў кавалак яблыка. Кастусь адштурхнуў яго руку.

— А кошык жа не твой. Тут вось напісана! — раптам злосна сказаў Юрка і паказаў рукой на донца кошыка. — Бачыш? «Ба-цян». Каб ведаў, нават і не еў бы. — Юрка адкінуў яблык і плюнуў: — Ад жміндзы той...

Юрка паглядзеў на хлопцаў, потым скіраваў позірк у бок калгаснага саду і засмяяўся:

— Хлопцы, пайшлі! Папросім Хведаровіча, і ён дасць антонавак. І Кастусю аддамо. Няхай не румзае.

— Не трэба мне вашых яблыкаў! Не трэба!

Хлопцы, як гракі, ускочылі і сыпанулі ўслед за Юркам, які, па-ранейшаму, накульгваючы, бег па выгане і размахваў рукамі. Кастусь бачыў, як мільгалі босыя ногі хлопцаў, як ветразямі напіналіся кашулі на спінах.

Чаму ён не сказаў, што гэта яго ўласныя яблыкі? Ат, няма чаго апраўдвацца. Галоўнае, што хлопцы частаваліся ягонымі яблыкамі, а не той Бацян, у якога ніколі ніхто не атрымаў нават паданкі. Але што ж цяпер рабіць? Павярнуць і пайсці дахаты? А кошык? Кінуць і сказаць маці, што ён аднёс яго? Не, хлусіць ён не будзе. Няма яблыкаў — ён аднясе кошык і аддасць. А ў тым, што Бацян не атрымае яблыкаў, Кастусь не вінаваты. Гуляць у футбол яго прымусіў Юрка. І ўвогуле, не Юрка, а сам ён пагадзіўся. І вельмі добра зрабіў, бо яшчэ невядома, чым скончылася б гульня, каб ён, Кастусь, не памог камандзе.

Гэтая думка зусім прымірыла яго з Юркам, ён падхапіў пусты кошык і шпарка пакрочыў.

Ледзь Кастусь ступіў на Бацяноў падворак, здаравенны чорны сабака з ашалелым брэхам адразу ж выскачыў з-за хаты. Бегчы не было куды. За спіной зачыніліся веснічкі.

— Які нягоднік сабаку дражніць? Га?! — загрымеў голас Бацяна.

З бярэмам драўлянай габлюшкі з-пад паветкі выйшаў Бацян. Ён адразу пазнаў Кастуся і гаркнуў на сабаку:

— Марш у будан! — Потым паглядзеў у бок саду і грымнуў тым жа голасам: — Гэ-эй! Адэля!

Белая пакручастая габлюшка закрыла ўсе грудзі Бацяна, і Кастусь бачыў толькі ўскудлачаную галаву і ўнізе зялёныя штаны, закручаныя ля босых ног чырвонай анучкай.

— Мяне маці паслала, — прашаптаў Кастусь.

— Ведаю. Ведаю. Сам ты да нас ніколі не зойдзеш. Каб далёка жылі, дык не скажаш...

З саду, несучы ў руках два вядры антонавак, ішла Бацянова жонка.

Адэля паставіла суды на прыступку, абцёрла з ілба пот, запыталася:

— Чаго?

— Пляменнічак завітаў.

— Вочы ёсць. Бачу. — Яна адвязала хвартух і, быццам знарок, але так лоўка, кінула яго на вёдры, што адразу накрыла ім усе яблыкі. Але Кастусь паспеў заўважыць, што яны ўсе буйныя і намнога большыя, чым тыя, якія выспелі на Кастусёвай яблыні. — Дык што ў вашых? Прыйшоў, нават не паздароўкаўся. Гэта што, у школе вучаць? А маці што парабляе?

— Бульбу ў брыгадзе выбірае. — ён неяк адразу падумаў, што варта адказаць толькі на апошняе пытанне. — Паслала вам кошык аддаць. Дзякуем. І яблыкі былі, — нечакана для самога сябе прызнаўся ён. — Гэта выраслі нашы... Але іх паелі хлопцы.

— Ага, — кіўнула галавой Адэля і раптам загадала мужу: — Схадзі, дай яму садавіны. У іх жа няма.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

